 




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 25 (434) | ГОД IX | 21 ЧЭРВЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


## У грыгораўцаўскай СТАРОНЦЫ

На пачатку мая фармальная прапанова змяніць шыльду на: Прэзідыум Грамадскай Рады Нарадовай у Грыгораўцах з сядзібаю ў Станцыі Грыгораўцы. Хто не зразумеў, выясняю, што ад гэтай вясковай сталіцы да яе Высокай Рады доўгія кіламетры пясчанай дарогі, у напрамку прыстанцыйных складаў. Дарэчы, і пошце прыдалася б падобная змена шыльды...

Станцыя адыгрывае немалаважную ролю ў гаспадарчым развіцці аколіцы і кожны хоча быць паблізу яе. Факт. Прытым, адсюль да кожнай вёскі не так далёка, да Грыгораўцаў таксама. Выгода! Толькі за час асенняй кампаніі 1963 года з чыгуначнай рампы паехала ў свет дзве тысячы тон буракоў і 710 тон бульбы. Увесну адпраўлена яшчэ 315 т. бульбы, тым разам у Чэхаславакію і Германскую Дэмакратычную Рэспубліку. А ў першых днях чэрвеня -- дадатковых 110 тон. Спадабалася заграніцы!

Арлянскі ГС — бо яго тут гандлёвае царства — заціраe рукі, маўляў, справы ідуць, кантора піша. Во, во, з кантораю цэлая бяда. Замест адразу з Бельска высылаць вагонамі сюды прыдзелы вугалю, разгружала яго і машынамі транспартавала ў Орлю (як бы на грыгораўцаўскай станцыі не было ахвотных зарабіць пры разгрузцы вагонаў). Потым валакліся з грыгораўцаўскай старонкі гаспадарскія фурманкі па пятнаццаць вёрст у Орлю за вугалем на зіму для сваіх школ. Прывозілі, што пападалася — з каменнямі, з зямлёю — у залежнасці ад таго, у якім настроі бываў тээсаўскі кладаўшчык. Урэшце, аднак, удалося пераканаць, каго трэба і сталася так, як павінна быць. Орля ўступіла, але грыгораўцаўскія людзі наступаюць далей.

— Калі, значыць, можна на месцы прадаваць бульбу з буракамі, купляць вугаль і нават штучныя ўгнаенні, чаму маем усё яшчэ цягацца ў Орлю са збожжам, часамі па некалькі разоў ездзіць пасля за грашыма? (Бязлітасная валакіта!)

Чаму? ГС тлумачыцца, што на станцыі няма адпаведнага склада для збожжа, а сам да коштаў гэтакай будоўлі пакуль што не дажыўся. У адказ на гэта дабіваюць яго больш прыкрым аргументам. Кажуць:

— Ага, вязі да вас, кладзі ў ваш склад, з таго ж склада кідаеце мяшкі на машыны і гоніце на бельскую станцыю, зноў разгружаеце іх ды пагружаеце ў вагоны. Вялікая лішняя работа, круг!

У нешчаслівым месцы нарадзілася Орля, засталася яна ў баку ад жалезных шляхоў. Сваім местачковым бытаваннем нажывае ворагаў. Зрэшты, мала лепшы лёс пана без каляскі напаткаў і Грыгораўцы, якія шчодра абдзялілі сваім прозвішчам станцыю, органы ўлады і адміністрацыі ды ўсю прычыгуначную аколіцу. Выходзіць, на тым канец іх ролі, рэшта належыць хуткай камунікацыі, дарогам і гандлю. Праз суседнія Маліннікі праходзіць бельская шаша, там высокая мураваная школа, туды ходзяць грыгораўцаўскія старшакласнікі, там жыве лекар, туды ходзяць грыгораўцаўскія хворыя. Там багацейшая крама...



На пяць мінут дарогі перад Грыгораўцамі — вёскаю.

А грыгораўцаўскія пажарнікі зусім расчараваныя — склаліся яны грашыма і пустакамі на новую рамізу, але ў адказ на ўпартую калатню аб дапамозе атрымалі аўтарытэтнае пісьмо, што іх пажарніцкая каманда с а м а л і к в і д а в а л а с я (?). Прачытаўшы гэтакае, пагналіся яны, бы на пажар, да бельскай камендатуры, дзе іх хутка пагасілі мілай усмешкаю і запэўненнямі:

— Ну, што вы!? Ваша каманда існавала, існуе і павінна існаваць. Пацешаныя, вярнуліся назад, шлангі — рукавы пахавалі на клунях; пабаяліся, каб хто не пакраў іх з пакрытай саломаю рамізы - рамізачкі (бобікавай будкі). Вясковыя патрыёты не здаюцца, ваююць, цярпліва вытоптваюць павятовыя парогі. Стараюцца цяпер здабыць прыстойную муравянку для сваёй пяцікласніцы - школы (раскіданай па хатах). У гэтай справе ўжо дабіліся нават абяцанняў.

Грыгораўцы, апрача назвы, хочуць даваць аколіцы ўласную прадукцыю. Пахвальна. Ткачук з сынамі робіць кругі для грамадскіх дарог — да Залешанаў, Маліннікаў, Волькі - Выганоўскай, Грэдалёў. Узамен за падараваную назву вёска хоча адступнога не толькі ў зручнай прадукцыі, хоча мець першынство да прыбытку. Пазаўчора прыслалі на станцыю вагон калійнай солі (замест 8). Тут атрымалі яе ўсе — хто тону, хто мяшок — другія вёскі ні зернятка. Апетыт Грыгораўцаў пры-

(Працяг на стар. 4)

НІНА ТАРАС

## РОДНАЯ ХАТА

Заўжды мы марым аб нечым узнёслым,
Нас вабяць дарогі — за далямі далі:
То сняцца нам стэпы ў ранку росным,
То клічуць марскія бурныя хвалі.

Нам хочацца болей шляхоў нязнаных,
Нязведаных ветраў, нябачных прастораў:
То вабіць нас неба, то даль акіяна,
То ўніз мы ляцім, то ўзнімаемся ўгору.

Але як мы толькі раптам адчуем,
Што наша Радзіма ад нас — не блізка,
Зусім нечакана ўспомнім тую
Дарогу, якая вяла ад калыскі.

А хай толькі гора нас напаткае,
Знянацку пасцігне жыццёвая страта.
Затужым маўкліва — і так пажадаем,
Каб сэрца сагрэла родная хата.

## СТАРАКОРНІНСКІЯ ПОМНІКІ

ЗДАРЫЛАСЯ ГЭТА 25.VI. 1941 Г.

Спрадвяковая традыцыя не дазваляе хаваць на прыцаркоўнай плошчы звычайных (недухоўных) пакойнікаў.

А вось перад царквой у Старым Корніне, што ў Гайнаўскім павеце...

— — —

У царкве ішоў малебен, а ён, бы скамянелы, стаяў перад двума крыжамі-помнікамі, што ўвекавечвалі супольную магілу, зарослую кветкамі.

— Хтосьці вам блізкі? — адважыўся я парушыць урачыстую цішыню. Ён памалу, як бы спрасонку, адварочвае галаву, глядзіць на мяне — нейкага чужога, абыякавага яму чалавека.

— І я меў быць тут... разам з імі...

— — —

Найстарэйшым сярод іхняй чацвёркі быў Ваня Ручай. Быў ужо сапраўдным васемнаццацігадовым кавалерам. Выбіраўся далёка, аж за Урал на работу. Меў намер адначасова вучыцца.

Андруша Гарасімюк быў на два гады ад яго малодшы, а Санька Баравік і Мішка Абрамюк таксама не многа розніліся ўзростам ад двух папярэдніх сяброў.

Ад самага ранку за вёскай на Качкавым лузе збіраліся чырвонаармейцы, устаўлялі гарматы, рыхтаваліся да бою. Старакорнінцы з трывогай чакалі гэтай хвіліны. Тады ж іх вёска... Але юнакоў, больш чым страх, ахапіла цікавасць.

— О, паглядзець бы як страляюць з пушак!

— А мо' і нам бы дазволілі? Яны ж свае, чырвоныя байцы...

Выбраліся пад вечар. Ішлі асцярожна, гаварылі шэптам.

— Неяк не відаць ні нашых салдат, ні гармат, — маркотна заўважыў Андрэй. — Можа ўжо адступілі?

— Сказаў, што знаў, дурань! — абурыўся Ванька. — Чырвонаармейцы не такія, каб адступаць! Пабачыце, яны яшчэ гэтых германцаў...

Раптам з-за прыдарожных хмызнякоў раздаліся гарклівыя, чужыя галасы.

— Хальт! Хальт! Хэндэ хох!

Хлопцы асцупянелі. «Гэта ж гітлераўцы...»

— Стой! Рукі ўверх! — загадаў адзін з нямецкіх салдатаў на ломанай рускай мове. Паслухмяна споўнілі загад. Яны ж не прадчувалі нічога злога. Ад маленства прызвычаіліся да таго, што няма кары без віны.

— Што вы дэлят здэш? — запытаў той самы салдат, мабыць нейкі афіцэр, бо меў крыху іншы, прыгажэйшы мундзір.

Хлопцы разгублена глядзелі на чужых салдат і не маглі зразумець, чаго яны ад іх хочуць, чаму палохаюць іх сваімі аўтаматамі.

— Мы, пане, о... з тэй... вёскі... — невядома чаму на польскай мове адазваўся Ванька Ручай.

— Зі зінд діе зоветішэн шпэ-эрэн, — зашваргатаў рыжы салдат.

— Я, вы шпіён! — пацвердзіў афіцэр і пачаў шныпрыць па Ваневых кішэнях. Раптам у яго руках паявіўся нейкі дакумент.

— Фабрычна-завадское абучэнне, — прамармытаў афіцэр.

— Гэта мая пуцёўка на работу, — гаварыў Ваня, але салдаты ўжо не слухалі, яны не патрабавалі ніякіх паясненняў.

Адвялі іх недалёка. Паставілі ў рове адзін ля другога паводле росту, як салдат на зборы. Пашваргаталі яшчэ штосьці на сваёй незразумелай мове...

(Працяг на стар. 4)




В. ЛЕЎЧУК: Вялікая рэч.

Р. МУЗАФАРАЎ і М. КАНАПАЦКІ: Беларуска - татарскія фальклорныя сувязі.

М. ЦЫТАВІЦКІ: Мая кар'ера.

 

# ЛУГІ І... СЫРАДЭЛЯ

На лёгкіх глебах паўднёвай Гайнаўшчыны найлепш родзіць авёс, жыта і бульба. Можа бульбу нават трэба было б паставіць на першым месцы. Цяжка спадзявацца тут высакарослага аўсу, але хочаш ці не, конь доўга не пацягне без яго. Таму, калі толькі дайшло да свядомасці мясцовага люду тое перакананне, што гурткоўскі трактар карыснейшы і выгаднейшы, чым дэраш, пагалоўе коней, напрыклад на тэрыторыі дубіцкай грамадскай рады паменшылася на 75 штук (за апошнія два гады). Затое кароў прыбыло амаль на сто штук. Праўда, кароў аўсом замнога не кормяць, але выдатак не такі і цалкам другі, чым на каня ў гаспадарцы. Прытым, каровінай «мнагалюднасці» садзейнічала і будзе садзейнічаць меліярацыя, якая яшчэ не закончана (разам з выганамі можа быць тут звыш 700 гектараў добрай травы!)

Гаспадары ў выніку гэткіх перамен у гадоўлі маюць больш месца на сяўбу, перад усім, сырадэлі — гэтай зімовай карміліцы жывёлы на слабых землях. Сеюць лубін, а найважнейшае, зацікавіліся кантрактацыяў ільну. Сельскагаспадарчыя гурткі ў Тафілаўцах і Тапарках намераны закупіць машыны для паўмеханічнай апрацоўкі ільну, ільняных плантацый. (ся)

# ПРЫГАЖОСЦЬ РОДНАГА КРАЮ



**Фотаапарат стаў цяпер вельмі папулярным прадметам. Сярод нашых чытачоў і сімпатыкаў напэўна ёсць многа фотааматараў. Фатаграфуйце тады свае родныя мясціны, фатаграфуйце людзей і цікавыя будоўлі, а здымкі прысылайце нам, у рэдакцыю. За здымкі, якія надрукуем на старонках нашага тыднёвіка, аўтары атрымаюць ганарар. Апрача гэтага, раз у месяц будзем вылучаць «здымак месяца», які дадаткова будзе ўзнагароджаны цікавай кніжкай. Прысылайце здымкі, якія адлюстроўваюць прыгажосць роднага краю.**

**На здымку: Краявід з наваколля вёскі Плёскі ў Бельскім павеце.**

ФОТА **В. Рудчык**

# АБ НАШАЙ ШКОЛЕ

Доўга ў Дзянісках была чатырохкласная школа. Знаходзілася яна ў сялянскай хаце. У 1950 годзе сяляне пабудавалі святліцу. У яе перанеслі школу. І тут было ўжо 5 класаў. У 1961 годзе жыхары Дзянісак пад кіраўніцтвам настаўніка Уладзіміра Антанюка сабралі 35 тысяч злотых і пры дапамозе грамадства пабудавалі школу. Школьны пляц вучні абсадзілі дрэвамі. Цяпер у нашай школе ёсць вучнёўская крама, у якой можна многа чаго купіць. Крама наша працуе вельмі добра. Узровень абслугоўвання даволі высокі. У конкурсе ў бягучым годзе на найлепшую вучнёўскую краму наша школа заняла першае месца ў Беластоцкім ваяводстве.

**Лёня Врублеўскі**
вёска Дзяніскі

# ГАЛАДОЎСКІ ГУРТОК БГКТ

Як вядома, ў Бельскім павеце існуе многа гурткоў БГКТ. Некаторыя гурткі добрыя, як, напрыклад, у Леўках, Паўлах, Рыбалах, Кашалях і іншых вёсках. Аб гэтых гуртках ведаюць навакольныя вёскі.

У Галадах гурток БГКТ быў таксама добры, выступаў у сваёй і ў іншых вёсках з пастаноўкамі. Цяпер усё змянілася, усё заснула. А шкада, вельмі шкада. Дрэнна, што бельскі аддзел, яго праўленне, зусім не цікавіцца сваёй арганізацыяй на вёсцы, што новы інструктар паступае так, як і той, што звольнілі: не прыязджае, не цікавіцца гуртком БГКТ.

**(К. Б.)**
вёска Галады

# АДЗІН З МНОГІХ

**(Працяг са стар. 2)**

ў бочкі наносілі самі вязні ад калодзежаў. Набіралі кацялок вады і палівалі ёю твар, бо на такое мыццё хапала толькі часу. Ад мыцця беглі ў сталоўку «на снеданне»: 200 грам глiністага, з восцямі хлеба і паўлітра несалоджанай бруднай кавы і часам дадавалі кавалачак (20—30 грамаў) худога тварагу. Пасля снедання хутка бягом у сваю камеру, каб пакінуць там кацялок, выбегчы на панадворак і стаць у строй.

Звычайна пералік вязняў адбываўся некалькі разоў такім чынам: вязні першага шэрагу пералічваліся — адзін, два, тры... і г.д. Пералік праводзіў пераважна сам камендант Пыталь. Ён прыкмячаў памылкі і памыляючыхся выклікаў са строю. Калі ўжо меў досыць забавы, тады паліцыянты прыступалі да падзелу вязняў да розных «работ». Тых, што памыліліся ў разлічванні, пасылалі чысціць прыбіральні. (Адзін раз давялося і мне быць ахвярай «памылкі» ў лічэнні). Потым адбіралі патрэбную колькасць груп да работы і адпраўлялі, а рэшта заставалася на муштру.

Работы былі пераважна непатрэбныя, непрадуктыўныя, разлічаныя толькі на тое, каб мучыць людзей. Напрыклад: вязняў пасылалі пераносіць з месца на месца каменне, капаць ямы і зноў іх засыпаць, зложаныя ў штабелі дровы пераносіць на плечах па некалькі сот метраў. Потым гэтыя паленні пераносіліся на старое месца і г.д. Канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бярэза займаў вялікую плошчу поля. Гэтае поле абрабялі вязні без коней. Цягнулі плугі, бораны, вазы. Давялося мне адзін дзень працаваць пры так званым «кампосце». Была вялікая яма, у якую ўсю восень, зіму і весну ўкідалі розныя бруды, смецце, вылівалі памыі. З гэтага ўтвараўся «кампост» на ўгнаенне поля. Вязні прыцягвалі да ямы вазы, рукамі накладалі «кампост» на вазы, цягнулі на поле, дзе яго рукамі раскідалі. Калі ў час гэтай працы гналі нас на абед, не дазвалялі памыць рукі. Пасля абеда гналі зноў на работу або муштру. І так было кожны дзень: пагода ці дождж, мароз ці завея. Вярталіся ў камеру мокрыя, а абсушыць адзежу не было дзе.

Кармілі вельмі дрэнна, а з хаты нельга было атрымоўваць пачак з ядою. Безупынку адчуваўся страшэнны голад. Калі пасылалі вязняў карміць свіней, дык несучы з паліцэйскай кухні памыі, у якіх плавалі кавалкі хлеба ці булкі, вязні вылаўлівалі гэтыя кавалкі і елі.

Каралі нас за малейшае правіненне. За першае і нават другое «слабейшае правіненне» каралі трох- ці пяцідзённым арыштам. Арыштам была пустая камера, без нараў і сенніка. Есці давалі палову дзённай порцыі. За «большае правіненне», акрэсленне якога належала да паліцыянта, давалі сем дзён карцэру. Карцэры — гэта глыбока пад зямлёй зробленыя пячоры — метр на метр і два метры вышыні. Сцены і падлога мокрыя, стаяў тут толькі кубал на апаражненне. На яго можна было сесці і спаць. Адзін дзень давалі палову порцыі снедання, абеду і вячэры, а на другі дзень — толькі палову порцыі хлеба і тры разы халоднай вады. І так сем дзён. Пасля адбыцця карцэру вязень выходзіў ледзь жывы. Але таварышы прыходзілі яму з дапамогай: шэраг дзён чатырох елі толькі тры порцыі, а адну аддавалі выйшаўшаму з карцэру. Трэба было гэта рабіць вельмі спрытна, каб паліцыянты не заўважылі, бо калі б злавілі — пакаралі б карцэрам. Былі такія таварышы, якія на працягу некалькіх месяцаў бывалі ў карцэры 3—6 разоў.

**ВЕСТКІ з БССР**

# ШЛЯХ ДАЎЖЫНЕЮ У АДЗІН ГОД

Калі праходзіш па завадскім двары, дык не верыцца, што не так даўно тут быў яшчэ лес. Шумелі сосны, на лугах раслі травы. Мінскі маторны завод — зусім маладое прадпрыемства. Яго пуск адбыўся ў маі 1963 года, на паўтара года раней, чым прадугледжвалася ў першапачатковых планах. Ён яшчэ да канца не пабудаваны: вось чаму вакол яго галоўных карпусоў так шмат вольнага месца. Але і ў тых цэхах, якія ўжо ёсць, можна ўбачыць рысы будучага гіганта, які з часам будзе даваць краіне тысячы трактарных матораў.

Здзіўляе галоўны цэх зборкі. На колькі можна кінуць вокам, усюды розныя механізмы, канвеерныя ленты. Людзі ў выгодных і прыгожых камбінезонах (для кожнай прафесіі свой колер і фасон) дакладна выконваюць свае абавязкі. Скорасць канвеера разлічана так, каб кожны зборшчык не спяшаючы мог выканаць аперацыю.

На прадпрыемстве шырока прымяняецца вытворчае тэлебачанне. Дзяжурны інжынер пры дапамозе тэлевізійных установак мае магчымасць глядзець за работай кожнага цэха і часова аказаць дапамогу. Дзякуючы высокай механізацыі і аўтаматызацыі вытворчых працэсаў, прадукцыйнасць працы на заводзе пастаянна павышаецца.

Маторны завод — маладое прадпрыемства. Сярэдні ўзрост рабочых — 24 гады. Многія людзі прыйшлі на завод не маючы спецыяльнасці. А зараз гэта вопытныя апаратары, наладчыкі аўтаматычнага абсталявання, праграмісты электронных машын. Тут, на прадпрыемстве, яны здабылі спецыяльнасці. Многія працягваюць вучыцца ў інстытутах і тэхнікумах.

Клопаты аб людзях, аб палепшэнні ўмоў іх працы — галоўнае ў дзейнасці адміністрацыі завода. Многія рабочыя жывуць у добраўпарадкаваных дамах недалёка ад завода. Прадпрыемства мае свой дзіцячы сад — яслі. Тут за невялікую аплату дзеці рабочых знаходзяцца пад наглядам вопытных выхавацаў.

Мотарабудаўнікі сябруюць з кнігай. Яны маюць у сваім распараджэнні дзве бібліятэкі мастацкай і тэхнічнай літаратуры.

Нядаўна аматары мастацкай самадзейнасці арганізавалі свой калектыў. Праўда, пакуль толькі знайшліся танцоры і спевакі, але, несумненна, хутка будуць і музыканты, і акцёры. На прыклад далёка хадзіць не трэба. На суседнім прадпрыемстве — аўтамабільным заводзе аматары сцэны спачатку арганізавалі невялікі драматычны калектыў, а зараз гэта народны тэатр. Такое ганаровае званне прысвойваецца таму аматарскаму калектыву, які дасягне прафесіянальнага майстэрства.

Інтарэсы людзей, як і іх характары, вельмі рознабаковыя. Аднаго не адарвеш ад кнігі, а другі гатовы цэлы дзень любавацца рыбкамі ў акварыуме. Ёсць на заводзе і такія людзі, што купаюцца круглы год, нават тады, калі на двары дваццаціградусны мароз. Іх называюць «маржамі».

Цяжка пералічыць усе зацікаўленні, якім аддаюцца рабочыя ў час свайго адпачынку. Аб гэтым расказвае двухгадзінны кінафільм, створаны аўтарамі пад кіраўніцтвам ліцейшчыка Уладзіміра Андросава.

Нядаўна на заводзе правялі анкету. Было задана толькі адно пытанне: «Ці ёсць у цябе сябар, да якога мог бы звярнуцца ў цяжкую хвіліну?» І, уявіце сабе, са шматлікіх адказаў не было ніводнага адмоўнага. Усе удзельнікі называлі нават па некалькі сяброў.

Адзін толькі год прайшоў ад часу пуска завода. Нягледзячы на кароткі тэрмін, тут склаўся добры калектыў, які жыве і працуе па выдатнаму прынцыпу савецкага грамадства: «Чалавек чалавеку — сябар, таварыш і брат».

АНДРЭЙ ПАЎЛЮЧЭНКА



Маторы для трактарных заводаў падрыхтаваны для адпраўкі. Фота Д. Прэса

 

# У ГРЫГОРАЎЦАЎСКАЙ СТАРОНЦЫ

(Працяг са стар. 1)

ходзіць з ядою, завастраецца. Аднак жа, калі не лічыць гэтага апетыту, іх значэнне ў гаспадарчым жыцці не большае, чым любой з 12-ці вёсак, уваходзячых у склад грамадскай рады (напрыклад, усе 5 трактароў знаходзяцца ў навакольных сельскагаспадарчых гуртках). Сялянскі люд масава пакідае ручную сяўбу, пайшлі ў рух сеялкі, якія высяваюць на адну трэцюю менш збожжа і, як аказваецца, даюць многа лепшы ўзыход, ураджай. Цэпам малоцяць хіба адны плячыстыя дзядулі, каб патрэнаваць забываемую спецыяльнасць...

Ззаду, на сцежцы, зазвінеў званок веласіпеда. Над вухам праімчаў, бы цень, хлапчук у чорным гарнітуры. Сустрэў я яго на пошце. Ён, Сярожка, высылаў дакументы ў Ружанастоцкі сельскагаспадарчы тэхнікум, падаецца туды вучыцца. Успомніліся мне заклапочаныя твары кіраўнікоў грамадскай рады:

— Няма аграномаў! Прыехаў адзін, пабыў, выехаў. Прыехаў другі, пабыў і таксама... Знайшлі сабе лепшую пасаду, не забароніш.

З аграномамі, як са штучнымі ўгнаеннямі — не дашукацца іх, не знайсці.



Мікалай Кубаеўскі, прыёмшчык арлянскага ГС-у на грыгораўцаўскай станцыі застрэліў мяне цэнамі, якія плаціць за бульбу — ад 110 да 130 зл. за цэнтнер. На рынку, — кажа Кубаеўскі, — цэны напалавіну меншыя, гляньце, як едуць да нас гаспадары. Часам ўвесь гэты пляц заставлены фурманкамі...

Ад Аляксандра Лушчынскага, старшыні грыгораўцаўскай рады, пачуў я пра такую вось шыльду: ПГР у Красным Сяле з сядзібаю ў Дыдулях. Што праўда, шыльда яшчэ не вісіць, але гэтакі ПГР будзе — ад восені на пяцістах гектарах пакінутых і абложных зямель. Дзе Дыдулі, пытаеце? Вось там. за пагоркам — недалёка...

У Дыдулях, за жвіраваным гасцінцам, убачыў я цэлую вуліцу даўжэзных абораў, хлявоў, складаў былой прадукцыйнай спулдзельні, а будучага ПГР-у.

Недалёка, за пагоркам, грукаціць і копціць клубамі чорнага дыму рухлівая Станцыя Грыгораўцы.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**
**Фота аўтара**



Пажарная раміза ў Грыгораўцах вышэйшая ад плоту...

# ПЕРШ, ЧЫМ СКАЗАЦЬ—ПАДУМАЙ

Людзі не думаюць, чаго судзяцца. У канцы канцоў аказваецца — не было за што судзіцца.

У Бялках каля Снежак гаспадар Ляўчук будаваў гумно на ўсю шырыню свайго пляца. Яго суседка, бойкая Марыя Юхімовіч адразу западозрыла Ляўчука ў хітрасці і, доўга не чакаючы, зрабіла яму справу ў судзе за тое, што ён нібы ўкапаўся на яе «тэрыторыю».

Размахнуўся на Ляўчука і Бартламей Аўтанюк, сусед з другога боку. Словам, завяліся шумныя суды з раём нагавораных сведкаў.

Глядзяць адзін на другога ваўкамі.

З Бельска зараз жа прыехаў на той шум мярнічы, які напрацаваўся на цэлых 600 злотых, мераючы спрэчныя граніцы. Мераў ён, мераў, і намераў, што Ляўчук сапраўды «грэшны» перад суседкаю — укапаўся, нябога, у яе пляц аж... на 30 міліметраў! (паўтараю, 3 см.) Марыя ацаніла вартасць тых міліметраў роўна на 1.000 злотых!! Аўтар не памыляецца пішучы — 1.000 зл.

Суддзя крывіўся і гаварыў, што Марыя пераборшчыла з гэтай сваёю цаною ні многа, ні мала, на якіх-небудзь 990—995 злотых... Зрэшты, такую самюсенькую цану выставіў і Бартламей, хаця мярнічы дакладна поўзаў па яго граніцы, але не змог дашукацца нават і аднаго міліметра Ляўчуковай лапчывасці.

Вядома, невінаватых не судзяць, не караюць. Аднак Марыя з Бартламеем ўперліся невінаватага зрабіць вінаватым і з Бельскага суда справу накіравалі ў Беластоцкі, ваяводскі. Уся грызня закончылася тым, што Ляўчуку даводзіцца прышліфаваць свой фундамент на гэтых няшчасных 30 міліметраў. Тут хтосьці можа здзівіцца, адкуль гэтакая дарагоўля на міліметры бялкоўскіх пляцоў? Таямніца Марыіных цэн простая — яна здорава выдаткавалася на судовую валакіту. Кабеціне шкада грошай: чырвоныя соткі не растуць макам на загонах, прыходзяцца цяжка — у поце і мазалях.

Паляцелі грошы з ветрам!

У Кашалях пад Орляю не менш бойка садзяць у суды грошы Афанас Гаворка супроць Еўстаха Валасовіча і наадварот. Бо, бачыце, цяпер ужо не разбярэш, хто супроць каго выступае. Задзерліся даўно і ў зусім ерундовай сварцы...

Калісьці жылі панельску і з поўным даверам, а, перад усім, для ўласнай гаспадарскай выгады абмяняліся часткамі сваіх пляцаў паабапал вясковай вуліцы. І, вось, Гаворка на злосць Валасовічу наважыўся адабраць у яго даўні свой пляц, развязаць сяброўскі дагавор. Не думайце, што можа Гаворку патрэбны ён, гэты пляц — дакладней кажучы, пясчаны пагорак, праз які Валасовіч зрабіў зручную дарогу на поле, пасадзіў крыху ляснога маладняку. Проста, Гаворку хочацца надакучыць Валасовічу, адрэзаць яму шляхі—дарогі за вёску, на палоскі. «Я табе пакажу, ты сякі-такі...»

Вось і ўвесь сэнс тысячных выдаткаў двух суседзяў. Што? Кажаце, пагадзіцца? О, не быць гэтаму!

Хоць ты разлівай іх вадою... Гонар каштуе, ой, каштуе яшчэ як!

(ся)

# II ЭТАП МАЛАДЗЁЖНАГА КОНКУРСА „АЛІМПІЯДА АШЧАДНЫХ" ЗАКОНЧАНЫ

Нядаўна Ваяводская камісія, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі Куратарыума школьнай акругі, Акружнога праўлення Саюза польскіх настаўнікаў, Каманды харугві ЗГП і Ваяводскага аддзела ПКО у Беластоку, падсумавала вынікі II этапу конкурса пад назвай «Алімпіяда ашчадных». Арганізаваны ён быў супольна ПКО, Міністэрствам асветы, Саюзам польскага гарцэрства і Польскім радыё. Конкурс працягваўся ад 1 верасня да 30 красавіка. Удзельнікі конкурса, уласнікі ашчадных кніжак СКО, уплачвалі кожны месяц нейкую суму грошай і не падымалі яе ўвесь час працягвання конкурса. Здабыўцы першага месца атрымалі 20 адзнак СКО, а здабыўцы другога месца — 20 дыпломаў. За ўложаную працу ў галіне арганізавання СКО і папулярызацыі ашчаднасці сярод школьнай моладзі 33 апякуны СКО атрымалі грашовыя ўзнагароды. На заканчэнне II этапу конкурса сярод 18.739 вучняў - удзельнікаў конкурса з Беласточчыны разлясавана 393 рэчавыя ўзнагароды вартасцю 7500 зл.

У II этапе конкурса «Алімпіяда ашчадных» брала ўдзел 203 школы. Гэта толькі 18% усіх уласнікаў ашчадных кніжак. Гэта сведчыць аб тым, што многія школы не дацэньваюць значэння конкурса як стымула развіцця сярод школьнай моладзі пачуцця ашчаднасці. (мф)

# ЛЕС ПАВІНЕН ШУМЕЦЬ ВЕЧНА

Лета, лета. Усё бліжэй. А з ім, як кажа песенька, чакае рэчка і лес. Іменна — лес. Ягады, грыбы і наогул лес. Хто як хто, але мы на Беласточчыне не наракаем на брак лесу. Прызвычаіліся да дрэў, як да хлеба штодзённага і... адзвычаіліся яго шанаваць. Не задумоўваючыся, кідаем смецце, паперы, запалкі з агнём. А гэта ўжо найгорш. Пажар лесу — карціна, якая нават ва ўяўленні толькі выклікае трывогу і жах.

Аб супрацьпажарнай ахове лесу гаворым часта. Але часта толькі гаворым. А лета чакае і лес чакае. Памятайце аднак — без агню.

У Акруговым праўленні дзяржаўных лясоў на канферэнцыі таксама гаварылі аб тым, як ахоўваць лес ад пажараў. І справядліва заўважылі, што кожны дарослы і дзіця павінен пра лес дбаць сам і вучыць няўмельцаў. Мы на Беласточчыне наогул лес любім. Ён звязаны непасрэдна з нашым родным краявідам, а краявід гэты засеў у душы. Будзем памятаць, каб не руйнаваць свайго краявіду. Барацьба з магчымасцю пажару лесу — гэта барацьба за нашае роднае.

(вл)

# СТАРАКОРНІНСКІЯ ПОМНІКІ

(Працяг са стар. 1)

Міхась Абрамюк аж закрыў вочы... Гэты рыжы ў іх... у іх цэліцца з аўтамата?!... Не!!!

Хацелася крычаць, пратэставаць, прасіць ратунку, клікаць людзей. Але словы не праходзілі праз горла.

Прагрымеў першы выстрал. Ваня, нібы збіты з ног, асунуўся на каменне. У той момант другая куля трапіла яму паміж вачэй.

Прагрымеў другі залп. Міхась ужо нават не чуў, што кроў яго сябра Андрэя Герасімюка, аблівае яму босыя ногі.

«Цяпер я... мая чарга... канец...

Вось рыжая гадзюка падносіць аўтамат... Яго сябры рагочуць, смяюцца, ім весела. Злавілі ворага! Узнагароду будуць патрабаваць ад начальства. Не!.: Каб не бачыць...»

Міхась закрывае вочы рукою і адварочваецца задам да свайго ката, як бы хацеў у апошнюю хвіліну жыцця прадэманстраваць пагарду, паказаць яму... плечы. Сэрца і лёгкія мераць час, час трывогі і чакання... Секунда... другая... трэцяя... Замест стрэлу раздаецца сухі скрогат метала.

І вось Міхась чуе ля вуха рашучы сяброўскі шэпт:

— Асечка... уцякай... уцякай... усё роўна паміраць.

Скочыў Міхась з рову, як на крылах. Не чуе ні гарклівых галасоў, ні свісту куль... Не, не даганяць яго... Бяжыць... Каб толькі хутчэй да вёскі, да першых хат. Вось стада кароў. Вяртаюцца з пашы. Міхась нурком кідаецца паміж маўклівымі красулямі. Хай страляюць, гады! Нічога цяпер яму не зробяць. Ён жыве! Жыве! Жыве!!!

— — —

Міхась Абрамюк цяжка ўздыхае.

— Дома не хацелі мне верыць. Думалі, што жартую... Потым я даведаўся, што Санька Баравік таксама ўцёк... зараз за мною. А вось гэтыя два, — паказвае рукою на два помнікі, што ля корнінскай царквы ўвекавечваюць брацкую магілу, — мелі б цяпер па...

Хвіліну пералічвае ў памяці даты, а потым неяк нечакана сцвярджае:

— Па радыё гаворыць, што ў Заходняй Германіі зноў хацелі б вайны, хацелі б нас наведаць...

**ВІКТАР РУДЧЫК**



Ля царквы ў Старым Корніне



 

